ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА—PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P.O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432

Год. XXXII № 317 Нью Ёрк — Сакавік — 1984 — March — New York Vol. XXXIII № 317

## ЦІ "ЗБАНКРУТАВАЎ" БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛІЗМ?

Мікалай Сташкевіч, які спэцыялізуецца на тэме БНР-БССР і які ў савецкім друку („Голас Радзімы", „Полымя" ды інш.) апублікаваў рад артыкулаў да навейшае палітычнае гісторыі Беларусі, у адным з гэткіх сваіх артыкулаў, пад заг. „Проці плыні гісторыі" („Полымя", 1983, № 10, бб. 164-174) пісаў, што на Бэрлінскай канфэрэнцыі 1925 г. быў, быццам-бы, „распушчаны" ўрад Беларускае Народнае Рэспублікі, і гэты акт „роспуску", кажа Сташкевіч, быў адначасна „поўным банкруцтвам беларускага нацыяналізму".

Цікава, што, не зважаючы на блізу 60 год, якія прамінулі ад таго „поўнага банкруцтва", сучасны дыктатар і акупант Беларусі вядзе ўсё яшчэ непаслабнае змаганьне зь беларускім нацыяналізмам. Ці не найлепш сьветчаць пра гэта розныя пастановы й дэклярацыі кампартыі Беларусі, газэтныя перадавіцы ды пісаньні таго-ж Сташкевіча і да яго падобных на тэмы гісторыі ды патэнцыяльнае небясьпекі беларускага нацыяналізму. Дык выглядае, што не адбылося ані „поўнага" ані „банкруцтва".

Мікалай Сташкевіч, давёўшы да кастрычніка 1925 году гісторыю палітычных партыяў, што ўваходзілі ў урад БНР, з палёгкай напісаў: „12 кастрычніка 1925 году ў Бэрліне нацыяналістычныя дзеячы склікалі нараду членаў 'ураду БНР'. Было вырашана спыніць барацьбу супраць Савецкай улады. Тут-жа была прынята дэклярацыя, якая прызнала Мінск 'адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня Беларусі' ".

Перш-наперш зь юрыдычнага гледзішча (зь якім Сташкевіч ня лічыцца, але ад гэтага яно не стаецца менш важным) у Бэрліне ў 1925 годзе самаліквідацыі ўраду БНР не адбылося, бо Старшыня Рады БНР Пётра Карэчэўскі ў Бэрлін ня езьдзіў і „дэклярацыі" некаторых сваіх міністраў ня прыняў. Гэткім парадкам, урад БНР застаўся й надалей і дзейсным і дзейным. Але дапусьцім навет, што ўрад БНР, як гэтага Сташкевічу хочацца, быў „распушчаны". Ці можна з гэтага факту „роспуску" зрабіць выснову аб „поўным банкроцтве беларускага нацыяналізму"? Што гэта — „беларускі нацыяналізм"? Сташкевіч вельмі звужана трактуе гэтую зьяву, утаесамляючы „нацыяналізм" зь дзейнасьцяй Рады БНР. Рада БНР была, пэўна-ж, „нацыяналістычнай" (будзем карыстацца тэрміналёгіяй Сташкевіча). Але Рада БНР ані праграмна ані гістарычна беларускага нацыяналізму ня вычэрпвае. Беларускі нацыяналізм існаваў задоўга да таго як Рада зьявілася на палітычнай арэне; існаваў таксама вонках яе, калі яна дзеіла; застаўся існаваць і пасьля Бэрлінскае канфэрэнцыі, незалежна ад таго, што на ёй адбылося.

Мікалай Сташкевіч сьведама звужае паняцьце „беларускага нацыяналізму" да ўраду БНР, бо яму, Сташкевічу, куды лягчэй тады „банкрутаваць" гэтую зьяву. Давёў да Бэрліну — і канец, „поўнае банкруцтва". Але, калі паглядзець на тры ўстаўныя граматы Рады БНР, на ўвесь той культурна-адраджэнскі рух, на груньце і ў цэнтры якога дзеіла Рада БНР; калі прааналізаваць ідэалы ды прасачыць дзейнасьць і долю дзеячоў БНР, дык ня цяжка пабачыць (Сташкевіч толькі ўражаньне робіць, што гэтага ня бачыць), што сэрцавіна беларускага нацыяналізму — ня ў дзейнасьці тае ці іншае інстытуцыі або партыі, а ў ідэі свабоды й незалежнасьці беларускага народу на сваёй зямлі. „Банкрутаваць" могуць (у моц гвалту звонку або ў выніку нерэалістычнага падыходу) розныя спосабы ўжыцьцяўляньня гэтае ідэі, але не сама ідэя. Ідэя гэтая застаецца нязьнішчальная, як нязьнішчальнае само жаданьне свабоды, сама надзея на лепшае жыцьцё.

Беларускі нацыяналізм — гэта ня толькі ўрад БНР (ці ён ёсьць, ці яго няма). Беларускі нацыяналізм — гэта „Мужыцкая Праўда" й „Ліст спад шыбеніцы" Кастуся Каліноўскага; гэта „Гоман" 1884 году і „Гоман" 1916-1918 гадоў; гэта „Наша Ніва" й „Калосьсе"; гэта творчасьць свабодных Янкі Купалы й Якуба Коласа (у тым ліку й творчасьць гэтых пісьменьнікаў, забароненая там, дзе піша свае артыкулы Сташкевіч); гэта нарэшце тысячы жыцьцяў Беларусаў і Беларусак, панішчаных захопнікамі з Усходу й Захаду ў іхным намаганьні падпарадкаваць сабе Беларусь або частку яе.

Праграма дзяржаўнага будаўніцтва Рады БНР была спробаю выкарыстаць зьмененыя Першай сусьветнай вайною й рэвалюцыйнымі падзеямі палітычныя абставіны, каб ужыцьцёвіць ідэалы дэмакратычных свабодаў і нацыянальнае незалежнасьці, за якія яшчэ Кастусь Каліноўскі сваё жыцьцё аддаў. Пасярэднім парадкам прызнае гэта й Мікалай Сташкевіч, калі піша ў сваім вышэй згаданым артыкуле, што „Савецкая ўлада адкрыла беларускаму народу шлях да сацыялізму, дала яму **сапраўдную нацыянальную дзяржаўнасьць**" (!).

Вось-жа „поўнае банкруцтва беларускага нацыяналізму" адбываецца там, дзе няма „сапраўднае нацыянальнае дзяржаўнасьці", там, дзе беларуская культура чужою падменьваецца. Пытаньне аб „банкруцтве" ня здымаецца з парадку дня ад таго, што тады й тады адбылася нейкая „нарада", якая „пастнавіла . . ." Пытаньне аб ступені „банкруцтва беларускага нацыяналізму" — пытаньне пэрманэнтнае, гэта пытаньне аб ступені ўжыцьцяўляньня ў кожны дадзены мамэнт — „сапраўднае нацыянальнае дзяржаўнасьці" Беларусі ўва ўсіх галінах жыцьця: эканамічнай, сацыяльнай, замежна-палітычнай, культурнай і гэтак далей.

Адказваць на гэта пытаньне савецкай прапагандзе не заўсёды выгодна, асабліва што да культурнае сфэры, якою людзі найбольш цікавяцца, якая ім найбольш зразумелая ды паводля якое яны найлепш і пазнаюць „сапраўдную нацыянальную дзяржаўнасьць". І каб ад адказу ўхіліцца, савецкая прапаганда намагаецца звузіць паняцьце „беларускага нацыяналізму" да палітычнае гісторыі ўраду БНР. Прычым гісторыю гэтую, фальсыфікуючы існасьць праблемы, Сташкевіч і да яго падобныя пасьпешліва абрываюць на 1925 годзе, абвяшчаючы „банкруцтва".

Але дарма. Беларускі нацыяналізм у запраўдным сэньсе — гэта праблемы існаваньня беларускае нацыі, праблемы ўсіх аспэктаў жыцьця беларускага народу, Беларусаў, дзе-б яны ні былі. Гэтыя праблемы „беларускага нацыяналізму" ніколі не пакідаюць быць войстра надзённымі, як надзённае й самое жыцьцё.

**Аркадзь Будзіч**

## МАРАЛЬНЫ ФАКТАР ПАЛІТЫКІ ЗША

Міністар замежных справаў Злучаных Штатаў Амэрыкі Джордж Шульц выступіў 22 лютага сёлета ў гор. Пэорыя (штат Іліной) з прамоваю аб маральных вымерах замежнае палітыкі Злучаных Штатаў. Дзяржаўны сакратар Шульц сказаў, што „фэнамэн таталітарызму" ставіць перад Амэрыкай патрэбу класьці націск на правы чалавека. Маральныя вартасьці й людзкія правы, зазначыў Шульц, — гэта ня прывесак да амэрыканскае палітыкі, а ейная сэрцавіна, ейны магутны імпульс.

Фундамэнтальная розьніца паміж Усходам і Захадам, сказаў Джордж Шульц, ляжыць не ў эканамічнай ці сацыяльнай палітыцы, хоць палітыка гэтая й розьніцца радыкальным парадкам, а ў розьніцы маральных прынцыпаў, на якіх яна базуецца. Гэта розьніца паміж тыраніяй і свабодай — адвечнае змаганьне, у якім Злучаныя Штаты ніколі не маглі й цяпер ня могуць заставацца нэўтральнымі.

Дзяржаўны сакратар Шульц сказаў, што заўсёды была разьбежнасьць паміж ідэаламі Амэрыкі ды „заблытанай рэальнасьцяй сьвету", і што замежная палітыка мусіць спалучаць у сабе розныя элементы інтарэсаў палітычных, ваенных ды эканамічных. І перад рознымі варыянтамі выбару часта цяжка адказваць на маральныя пытаньні, але, сказаў Шульц, адна рэч мусіць быць ясная: „правы чалавека не павінны быць выпраўданьнем уцяканьня ад праблемаў".

Палітыка абароны правоў чалавека, на думку дзяржаўнага сакратара, не павінна зводзіцца й да таго (як гэта часта робіцца), што Амэрыка ставіць сябе здалёку ад тае ці іншае дзяржавы, калі тая практыкуе парушэньні правоў чалавека. Гэткая пастава, сказаў Шульц, фактычна становіць форму ізаляцыянізму. Калі слухацца некаторых лібэралаў, якія раяць парываць сувязі з правымі рэжымамі, і некаторых кансэрватараў, што раяць рваць сувязі зь левымі рэжымамі, дык Амэрыка можа застацца практычна бязь ніякае замежнае палітыкі, сказаў дзяржаўны сакратар.

Гаворачы пра палітыку ўраду прэзыдэнта Рэйгана, Шульц расказаў, як гэтая палітыка праводзіцца ў галіне абароны правоў чалавека ў розных роўніцах. Гэтак, прыкладам, у шмат якіх краінах ЗША намагаюцца рабіць уплывы на палепшаньне судовае й паліцыйнае практыкі — каб спыніць забойствы, вызлімінаваць катаваньні, звольніць палітычных вязьняў, спыніць расавыя ды іншыя перасьледы, дазволіць свабодную эміграцыю й г.д. Але ўсюды, сказаў Шульц, Амэрыка падыходзіць да гэтых праблемаў з пазыцыяў „актыўнага заангажаваньня". „Калі мы цэнім свае маральныя вартасьці, сказаў міністар замежных справаў Злучаных Штатаў, — мы мусім актыўна бараніць іх ціто ў Афганістане й Польшчы, ціто на Філіпінах, у Сальвадоры або Грэнадзе". Шульц нагадаў, як ён, быўшы разам зь віцэ-прэзыдэнтам Злучаных Штатаў Джорджам Бушам у Сальвадоры, асудзіў там гэтак званыя „каманды сьмерці" (супраць якіх недаволі актыўна змагаецца сальвадорскі ўрад), або як Злучаныя Штаты публічна дамагаліся правядзеньня грунтоўнага расьсьледваньня забойства філіпінскага апазыцыйнага лідэра Бэніньё Акўіна.

У адных выпадках, сказаў Шульц, урад Злучаных Штатаў карыстаецца гэтак званай ціхой дыпляматыяй, у іншых — адмовай ваеннае дапамогі або дыпляматычнага падтрыманьня, або галасаваньнем супраць пазыкаў гэткай дзяржаве ад міжнародных банкаў або іншымі санкцыямі. А дзе трэба — і ціскам публічных заяваў з асуджэньнем практыкі гвалтаваньня правоў чалавека.

Шульц сказаў, што хоць Савецкі Саюз і ягоныя сатэліты становяць найбольшую пагрозу правом чалавека, дзяржавы гэтыя далёка не адныя, якімі Амэрыка праймаецца. Прыгэтым Шульц правёў розьніцу паміж таталітарнымі рэжымамі й традыцыйнымі аўтарытарнымі дыктатурамі. Абедзьве гэтыя катэгорыі, сказаў Шульц, чужыя нам. Але таталітарызм становіць асаблівую пагрозу, бо ён адзначаецца трывалкасьцяй і глябальнымі амбіцыямі. Правыя ваенныя рэжымі могуць разьвіцца ў дэмакратыю, як гэта сталася на працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў у Партугаліі, Гішпаніі, Грэцыі, Турэччыне ды Аргентыне. Але ня сталася падобнага ў ніводнай камуністычнай дзяржаве, хоць Польшча, прыкладам, і спрабавала гэта зрабіць.

Гаворачы пра Савецкі Саюз, Шульц назваў яго „ўнікальнай" дзяржавай. Дзейнасьць гэтае дзяржавы, сказаў Шульц, абумоўленая ня толькі расейскай гісторыяй і дзяржаўнымі інтарэсамі СССР, але й рэвалюцыйнай ідэялёгіяй, пашыранай пры дапамозе сілы, за якою стаіць найбольшая ваенная моц, якую калі-небудзь у гісторыі мела тыранія.

## „СПАД ШЫБЕНІЦЫ МАСКОЎСКАЙ"

Сто дваццаць гадоў таму, 22 сакавіка 1864 г., у Вільні на Лукіскім пляцы быў павешаны кіраўнік паўстаньня на Беларусі й выдавец першае беларускае падпольнае газэты „Мужыцкая Праўда" Кастусь Каліноўскі. Перад сьмерцяй, седзячы ў турме ўжо, Каліноўскі напісаў сваё апошняе пасланьне народу, за лепшую долю якога ён змагаўся й аддаў жыцьцё. Дакумэнт гэты ведамы, як „Ліст спад шыбеніцы".

Адзначаючы сёлета ўгодкі сьмерці Кастуся Каліноўскага, передрукоўваем гэты апошні запавет палымянага рэвалюцыянера, каб чытач „Беларуса" адчуў лучнасьць з тымі, што не шкадавалі здароўя й жыцьця свайго для лепшае будучыні народу, каб у гэтай лучнасьці сам знайшоў папаўненьне духовае сілы для далейшага змаганьня, якое ў нашых абставінах завецца грамадзкай працай.

Браты мае, мужыкі родныя!

Спад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да Вас пісаці, і можа раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і Цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, но ня жаль зьгінуць за Тваю праўду.

Прымі, Народзе, па шчырасьці маё слова прадсьмертнае, бо яно як-бы з таго сьвету, толькі для дабра Твайго напісана.

Нямаш, Браткі, большага шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку. Тады ён толькі можа быць у радзе, жыці ў дастатках і тады толькі, памаліўшыся па праўдзе Богу, заслужыць Неба, бо збагаціўшы навукай розум, разаўе сэрца і радню цэлую шчыра палюбіць.

Но як дзень з ночай ня ходзіць разам, так ня ідзе разам навука праўдзівая зь няволяю маскоўскай. Ды пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога ня будзе, ня будзе праўды, багацтва, і ніякай навукі, адно намі як скацінай варочаць будуць, не для дабра, но на пагібель нашу.

Для таго-та, Народзе, як толькі калі пачуеш, што браты Твае спад Варшавы б'юцца за праўду і свабоду, тады і Ты не аставайся ззаду, но ўхапіўшы за што можаш, за касу, сякеру, і цэлай грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за сваю зямлю родную. Бо я Табе спад шыбеніцы кажу, Народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над Табою Маскаля ўжо ня будзе.

Твой слуга ЯСЬКА, гаспадар спад Вільні.

***

*„У НАС, ДЗЯЦЮКІ, АДНО УЧАЦЬ У ШКОЛАХ, КАБ ТЫ ЗНАЎ ЧЫТАЦІ ПА МАСКОЎСКУ, А ТО ДЛЯ ТАГО, КАБ ЦЕБЕ ЗАЎСІМ ПЕРЭРАБІЛІ НА МАСКАЛЯ". — Кастусь Каліноўскі („Мужыцкая Праўда" № 4).*

***

Кастусь Каліноўскі „абараняў правы беларускага народу на нацыянальную свабоду і рзьвіцьцё нацыянальнай культуры". Каліноўскі „шкадаваў, што ў школах не даюць асноўных ведаў навукі, ня вучаць дзяцей на роднай мове". — Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя, т. 5 (1972), б. 266.

***

У Менску няма ніводнай школы — вышэйшай, сярэдняй ці пачаткавай, — у якой выкладаньне вялося-б у беларускай мове.

## 3-ЦІ САБОР БАПЦ

Архіепіскап Мікалай, Першы Гіерарх Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, выслаў ліст (датаваны 24 студзеня 1984 г.) духавенству, парафіяльным радам і ўсім вернікам БАПЦ.

У лісьце кажацца, што паколькі сёлета спаўняецца 12 гадоў ад 2-га Сабору БАПЦ (які адбыўся ў травені 1972 г. у Гайленд Парку, Н. Дж., у ЗША), згодна з параграфам 35 Статуту БАПЦ сёлета павінен адбыцца чарговы 3-ці звычайны Сабор. Сабор гэты й скліканы на 26-27 травеня сёлета. Адбудзецца ён ізноў у Гайленд Парку.

У сваім лісьце Архіепіскап Мікалай кажа таксама:

„Мы не змаглі спыніць сьвецкіх судоў, што вядуцца супроць пяцёх парафіяў БАПЦ у ЗША і Канадзе, хоць я зрабіў усе захады, каб вынясьць нашы царкоўныя справы са сьвецкіх судоў. Я некалькі разоў зьвяртаўся да судзячага нас боку праз суд ці пасярэдніцтвам людзей добрай волі, каб разьвязаць нашы разыходжаньні нутраным шляхам згодна з законамі нашай Царквы. Нажаль, пазытыўнага водгуку на мае стараньні пакуль што няма".

Уладыка Мікалай заклікаў усіх сваім лістом „аднесьціся зь вялікай увагаю да надыходзячага Сабору БАПЦ, абавязкова прыбыць на Сабор ды зрабіць свой уклад для дабра нашай сьвятой Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы".

## ЛІСТ БАЗА ДА КАНГРЭСМЭНАЎ

Галоўная ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночньня ў сувязі зь сёлетнімі 66-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі выслала ўсім сэнатарам і бальшыні кангрэсмэнаў ліст, зварачаючы іхную ўвагу на недацэньваньне кіраўніцтвам радыястанцыі „Голас Амэрыкі" важнасьці перадачаў у беларускай мове. У лісьце аргумэнтуецца патрэба гэткіх перадачаў ростам значаньня беларускае мовы ў савецкай Беларусі. Падаюцца гэткія довады:

1. Беларускамоўная праграма Беларускага тэлябачаньня за кароткі час па ейным увядзеньні ў 1981 г. здабыла сабе 46,8% гледачоў (як пра гэта падала газ. „Зьвязда" 26.VI. 1982).

2. У беларускую літаратуру ўсё больш і больш творчае моладзі прыходзіць з гарадоў, у выніку чаго расьце й лік гараджанаў-чытачоў беларускае літаратуры (як гэта было адзначана ў газ. „Літаратура і Мастацтва" 23.XII.1983).

3. Публікацыя выдавецтвам „Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя" колькіх шматтомавых працаў падвысіла статус беларускае мовы.

4. Беларуская мова за савецкі пэрыяд узбагацілася блізу на 30 тысячаў словаў.

5. Савецкая прапаганда бязупынна рэагуе на беларускамоўныя перадачы з Захаду (радыё-Ватыкан, радыё „Свабода", Транс-Сусьветнае радыё й радыё Транс-Эўропа). Савецкая чульлівасьць на гэтыя перадачы выявілася навет на гэткім высокім форуме, як сэсія Вярхоўнага Савету СССР, дзе „прэзыдэнт" Беларусі Іван Палякоў (Старшыня Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР) асудзіў беларускія перадачы радыё „Свабода", як падала газ. „Известия" 17.VI.1983.

6. „Голас Амэрыкі" мае на Беларусі масу „натуральных" слухачоў, паколькі каля мільёну амэрыканскіх грамадзянаў маюць сваякоў сярод чверці жыхарства Беларусі. Тысячы людзей на Беларусі трымаюць сувязь з тысячамі Амэрыканцаў, а значыцца, на Беларусі ёсьць зацікаўленьне жыцьцём і палітыкай ЗША.

У лісьце сказана, што кіраўніцтва „Голасу Амэрыкі" робіць паважную памылку ў сваім недацэньваньні камунікацыйнага каналу да стратэгічна важнае часткі Савецкага Саюзу, каб перадаваць слухачом на Беларусі пра мірныя намеры амэрыканскага ўраду.

# АПОШНІ ГОД ЖЫЦЬЦЯ Ф. АЛЯХНОВІЧА

**(Успаміны)**

Больш за 40 год таму, у 1943 г., у нядзелю 7-га сакавіка, віленскія Беларусы абходзілі ўрачыста 60-я ўгодкі Францішка Аляхновіча. Хоць угодкі прыпадалі на аўторак (9.III), абходзіны былі наладжаныя ў нядзелю, каб лягчэй было людзям сабрацца на гэтую імпрэзу.

Афіцыяльным арганізатарам абходу быў Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні, старшынём якога ў тым часе быў я. Дастаць дазвол ад Немцаў ня было ніякіх цяжкасьцяў. Зоя Коўш, сакратарка, пазваніла ў Гэбітскамісарыят і адразу дастала згоду. Дазвол на гарадзкую залю я асабіста дастаў ад Лятувісаў, якія спачатку ня надта ахвотна згаджаліся, кажучы, што заля можа будзе занятай, але калі я сказаў, што можа Немцы мне памогуць, адразу згадзіліся на 7-га сакавіка.

Галоўным арганізатарам абходу быў др. Францішак Грышкевіч. Зь ім мы абгаварылі ўсю праграму вечара, ён дабіраў дэкляматараў на вершы Аляхновіча і сам быў галоўным прамоўцам. Вечар павінен быў пачацца ня позна, бо мусіў закончыцца а 9-ай. Было немагчыма дастаць усім ночныя пропускі, а ўсе мусілі быць у хаце перад 10-ай, а даезд пры адсутнасьці транспартацыі, асабліва далейшым, забіраў шмат часу.

На вечары пасадзілі мы Аляхновіча ў ганаровае крэсла на сцэне. Аляхновіча вітаў я ад Б.Н.К., ад Беларусаў Вільні й Віленшчыны, як заслужанага дзеяча культуры, якім нашая Вільня вельмі ганарыцца. Тады горача прамаўляў Ф. Грышкевіч (хто знаў др. Грышкевіча, той ведае, які палкі быў у яго характар), пералічаючы ўклад Аляхновіча ў беларускую літаратуру і заслугі ягоныя як тварца адроджанага беларускага тэатру.

Пасьля былі дэклямаваныя вершы Аляхновіча, у тым ліку й верш „Як я памру . . .", які зрабіў на слухачоў моцнае ўражаньне.

Гасьцей ад іншых нацыянальнасьцяў на вечары ня было.

Вечар скончыўся а 9-ай і ўсе хуценька разыйшліся, каб вярнуцца дамоў перад забароненым часам. Мы з Аляхновічам ішлі разам па Нямецкай і Партовай вуліцах, бо маё памешканьне было яму падарозе. Гаварылі мы, між іншага, пра ягоны век. Ён казаў, што час ляціць так скора і што хоць ён шмат перажыў на Салаўкох ды хаваючыся пры бальшавікох перад прыходам Немцаў, усё-ж-такі ня чуецца старым, чуецца фізычна й інтэлектуальна ў поўнай сіле.

На другі дзень, у панядзелак, прыйшоўшы ў Камітэт, які мясьціўся пры вуліцы Адама Міцкевіча пад нумарам 5-м, дзе быў таксама пакой, у якім Аляхновіч рэдагаваў газэту, я застаў Аляхновіча нэрвова ўсхваляванага. Пытаюся: „Франук, што сталася?" А ён кажа: „Сяньня раніцаю зайшоў сюды гэты вар'ят Васілеўскі і сказаў мне: 'Франук, чытай Біблію, рабі паслугі бліжнім, бо твае дні палічаныя ўжо, ты не дажывеш да наступных угодкаў. Па выхадзе ўчора з твайго сьвяткаваньня я бачыў твае паховіны, нясьлі цябе ў труне па Вялікай вуліцы і шмат людзей ішло за труною.'" „Я ня веру, — кажа Аляхновіч, — у ягоныя галюцынацыі, але няпрыемна пачуць такое прароцтва".

Я таксама няпрыемна пачуўся ад гэтае варажбы, пагатоў, што абодвы мы ведалі здольнасьці Васілеўскага мець прарочыя сны й галюцынацыі.

Васілеўскі (імя ягонага не памятаю, здаецца Антон), віленскі Беларус, блізкі знаёмы Аляхновіча, чыноўнік віленскае почты. Слаба зарабляючы, меў ён цяжкасьці пракарміць вялікую сям'ю. Займаўся астралёгіяй і варажбою, чытаў з далоні, рабіў гараскопы, стараўся гэткім спосабам крыху падзарабіць, каб паправіць сваё матар'яльнае палажэньне. Мне ён, зрабіўшы гіпсавую адбітку далані і ўзяўшы дзень і гадзіну майго нараджэньня, выпісваў кожнага месяцу гараскоп. Не заўсёды я меў час чытаць той гараскоп, але даваў Васілеўскаму 20 злотаў за яго і кожны з нас быў задаволены. Меў Васілеўскі якоесь нязвычайнае вычуцьцё будучыні. Аднойчы, спаткаўшы мяне, кажа: „Ведаеш, доктар, палескі біскуп Лазінскі скора памрэ (Лазінскі быў прыязны Беларусам), бо я меў нейкі сон". Колькі тыдняў пазьней я прачытаў у газэце пра сьмерць Лазінскага.

Я ведаў некалькі іншых выпадкаў, калі ён прадказваў нешта і яно споўнілася. Нажаль, у выпадку Аляхновіча сталася тое самае.

У Камітэце нашым у ўрадавыя гадзіны, заўсягды была сакратарка. Аляхновіч таксама быў там амаль кожны дзень. І я стараўся быць штадня, хоць на кароткі час, так што на працягу таго году мы спатыкаліся з Аляхновічам амаль штадзённа, і я ведаю, што хоць можа ён і ня зусім верыў, аднак пражыў амаль цэлы год (не дажыў 6 дзён да наступных угодкаў) пад уражаньнем варажбы Васілеўскага. Аляхновіч пачаў чытаць Біблію і колькі разоў дзяліўся са мною думкаю аб прачытаным.

Гэтак прайшоў амаль цэлы год па сьвяткаваньні Аляхновічавага 60-годзьдзя, прарочая перасьцярога Васілеўскага паволі заціралася ў памяці, аж раптам раніцай 4-га сакавіка 1944 году мне тэлефануюць, што ўчора ўвечары быў забіты Аляхновіч. Я адразу пайшоў да памешканьня Франука, але дзьверы ягоныя былі замкнутыя. Суседзі сказалі, што цела Аляхновіча паліцыя забрала ў шпіталь сьвятога Якуба на аўтопсію. Рэзультат аўтопсіі, як пасьля даведваўся, — тры стрэлы зь цяжкога калібру рэвольвэра, з блізкое адлегласьці, проста ў твар. Адна куля прайшла праз галаву, а дзьве знойдзеныя ў галаве.

Калі я пасьля гаварыў з жонкай Аляхновіча, яна расказала мне, як усё адбылося.

„У пятніцу, позна вечарам, я адчыніла ўваходныя дзьверы на званок і ўвайшоў чалавек векам каля трыццаткі, у кароткай куртцы. Я думала, што нехта зь Беларусаў, бо я знала толькі нямногіх. Дзіўна толькі выдалася мне, што ён не прамовіў ні слова, каб прывітацца. Ад дзьвярэй можна было бачыць Францішка за бюркам у малым пакоіку. Чалавек, якога я ўпусьціла, скора падыйшоў да бюрка, выстраліў колькі разоў і хутка выйшаў. Усё гэта трывала некалькі хвілін. Я, перапалоханая, у роспачы, падбегла да Францішка, які паміраў ужо ў крэсьле. У яго кроў лілася з галавы на ўсе бакі. Суседзі памаглі мне паклікаць паліцыю."

Гэтак маскоўская куля адабрала жыцьцё вялікага патрыёта ды выдатнага драматурга і пісьменьніка адраджэнскага пэрыяду, колькісот крокаў ад месца, дзе восемдзесят гадоў перад тым маскоўская шыбеніца адабрала жыцьцё Кастуся Каліноўскага.

Пахавалі мы Аляхновіча на пратэстанцкім магільніку на Панарскай вуліцы, на горцы, адкуль відна ўся Вільня, якую Франук так любіў. Мне прыпала на паховінах сказаць разьвітальныя словы прыяцелю Франуку. На магіле паставілі малы дзеравяны крыж.

Пасьля Немцы з Гэбітскамісарыяту сказалі нам, што забойца быў злоўлены й зьліквідаваны. Гэта быў, быццам-бы камуніст, з тыповым лятувіскім прозьвішчам, прысланы з Налібоцкае пушчы на загад Масквы. Ці запраўды савецкі агент быў злоўлены, ці Немцы выдумалі гэтую вэрсію, мы ня былі пэўныя.

**Б.Г.**

## ПРА БЕЛАРУСЬ У АМЭРЫКАНСКІМ ДРУКУ

**У газэце „Чыкага Сан-Таймс"** (14.II.84) зьмешчаны ліст сп-ні Веры Рамук, сакратара Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Чыкага, аб тым, што гэта памылка — называць Савецкі Саюз „Расеяй". Аўтар ліста піша, што СССР складаецца зь 15-х рэспублікаў, зь якіх 14 рэспублікі не-расейскія. І гэтак як няправільна называць Злучаныя Штаты імём аднаго найбольшага штату, гэтак-жа памылкова называць Савецкі Саюз „Расеяй". Сп-ня Рамук прапануе, каб, пішучы пра падзеі й асобаў з Савецкага Саюзу, газэта падавала, у якой рэспубліцы падзея адбылася або хто зь якое рэспублікі паходзіць.

**У газэце „Чыкага Сан-Таймс"** за 6 лютага сёлета зьмешчаная, зробленая агенцтвам Асошыэйтэд Прэс, фатаграфія беларускага мастака Мікалая Пушкара з гор. Мазьгра. Сп. Пушкар сфатаграфаваны

**(Працяг на б. 4-й)**

## НЭМЭЗЫДА

*Ад дзён, калі вастогу сьцены*
*Глядзелі, як я рэзаў вены*
*Аськепкам вышчарбленым шкла;*
*Як маці ад Слуцка ў Менск ішла:*
*„Дзе тут вастрог?" — у мянчан*
*пытала,*
*На „свиданьи" мяне не пазнала:*
*Ад катаваньня і нуды*
*Быў я чорны і худы . . .*
*Ад тых часоў мае пакуты*
*Паўсталі супраць катаў лютых.*
*І лёс куды-б мяне ні кідаў,*
*Ішла са мною Нэмэзыда.*
*І будзе йсьці помсты багіня,*
*Пакуль чырвоны кат ня зьгіне.*

*1984 г.*

*Міхась Кавыль*

## ПАДЗЯКА

Ад шчырага сэрца дзякую ўсім сваім сябром і знаёмым, што прывіталі мяне з 81-мі ўгодкамі майго жыцьця.

**Вінцэнт Жук-Грышкевіч**

## ПАДЗЯКА

Ня маючы магчымасьці адказаць асабіста маім прыяцелям з усіх куткоў сьвету, якія прыслалі свае прывітаньні з нагоды дваццаць пятых угодкаў майго сьвятарства, хачу хоць у гэты спосаб падзякаваць ім ад шчырага сэрца і запэўніць, што ўсе яны ў маіх думках і малітвах.

Я вельмі ўдзячны ўсім за грашовыя ахвяры, якія я перадаў на Беларускую Бібліятэку і Музэй імя Францішка Скарыны: хай яны служаць справе захаваньня духоўных скарбаў беларускага народу і сьветлай памяці заснавальніка Бібліятэкі, Біскупа Часлава Сіповіча, якому, пасьля Бога, я найбольш абавязаны маім сьвятарскім пакліканьнем.

Дзякуючы яшчэ раз за ўсё, прашу не забываць у сваіх малітвах мяне і ўсіх беларускіх сьвятароў, каб мы маглі дастойна выконваць ускладзеныя на нас Богам абавязкі. Трэба асабліва маліцца за новыя сьвятарскія пакліканьні, каб слава Імя Божага заўсёды жыла і мацнела сярод беларускага народу.

**а. Аляксандар Надсон**

## „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ" У ЧЫКАГА

Губэрнатар штату Іліной Джэймс Томсан і мэр гораду Чыкага Гарольд Вашынгтон, з нагоды 66-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, адмысловымі граматамі абвесьцілі дзень 25 сакавіка 1984 г. „Днём Беларускае Незалежнасьці" у штаце Іліной і горадзе Чыкага. У дзень 25 сакавіка ля ратушы Чыкага быў вывешаны беларускі нацыянальны сьцяг.

## СУСТРЭЧА З ПРЭМ'ЕРАМ

У Мэльбурне (Аўстралія) 28 студзеня сёлета ў Польскім Доме адбылася сустрэча прэм'ера польскага экзыльнага ўраду сп. К. Сабата з прадстаўнікамі розных арганізацыяў суседніх з Польшчаю народаў, у тым ліку й Беларусаў. Беларускі прадстаўнік сп. М. Н. добра ведамы польскаму прэм'еру яшчэ зь першых паваенных гадоў, праведзеных у Лёндане. Паколькі ня было магчымасьці на першым спатканьні пагаварыць даўжэй аб беларуска-польскіх праблемах, адбылася другая сустрэча 30 студзеня ў мэльбурнскім гатэлі „Шато", дзе сп. Сабат і ягоная жонка затрымаліся на час пабыту ў Вікторыі. Гутарка прайшла ў сардэчнай атмасфэры. Беларускі прадстаўнік перадаў Прэм'еру Сабату артыкул пра Беларусь і Беларусаў Аўстраліі ды ў гутарцы закрануў справы беларуска-польскага супрацоўніцтва. Абодвы бакі пагадзіліся, што супрацоўніцтва гэтае, асабліва на вышэйшым узроўні, недастатковае ды што пажадана было-б яго ўзмоцніць. У сваіх афіцыйных выступленьнях перад аўдыторыямі й праз радыё Прэм'ер Сабат падкрасьляў, што ягоны ўрад выказваецца за поўнае супрацоўніцтва з усімі суседзямі Польшчы, якія маюць права на незалежнасьць, у тым ліку й Беларусамі.

**М.Н.**

# НА КАЛЯДНЫМ ФЭСТЫВАЛІ У ЧЫКАГА

Калядны фэстываль у Музэі Навукі й Індустрыі трываў ад 19-га лістапада 1983 г. па 8-га студзеня сёлета. Больш за 900 тысячаў асобаў наведалі фэстываль, што ўключаў у праграме, апрача ялінкаў і батлейкаў 40 этнічных групаў, калядныя паштоўкі ды розныя нацыянальныя стравы ў рэстаране музэю, прымеркаваныя да калядных кулінарных традыцыяў розных краінаў. Наш удзел у фэстывалі быў арганізаваны Беларускім Каардынацыйным Камітэтам Чыкага.

Беларуская ялінка вызначалася сваймі непаўторнымі аздобамі, выкананымі ў апрычоных дысэнях ды зыркіх калёрах. Новыя саломкавыя арнамэнты ў жывых калёрах надавалі ёй асаблівую прываблівасьць.

Беларуская калядная праграма (26.XI) пачалася дакладам Янкі Рамука, студэнта інжынерыі, зь дзьвюх частак. Спачатку дакладчык гаварыў пра Беларусь: геаграфію, гарады, жыхарства, абвешчаньне Незалежнасьці. У часе дакладу дзьве дзяўчынкі ў нацыянальных касьцюмах трымалі вялікую карту Беларусі на сцэне. Трэба за-




(Фота Янкі Рамука)

цеміць, што публікі сабралася даволі шмат, хоць гэта быў будзённы дзень. Пасьля першай часткі дакладу быў паказаны культурны фільм.

У другой частцы дакладу Янка Рамук падрабязна апісаў калядныя звычаі, асабліва сьвяты вечар-куцьцю, расказаў пра калядоўшчыкаў, калядаваньне. У гэтым мамэнце на сцэну выйшлі зь вялікай каляднай зоркай двое дзяўчат і двух хлапцоў у беларускіх нацыянальных строях, якіх гледачы сустрэлі бурнымі воплескамі.

Далей дакладчык расказаў з гумарам пра варажбу ў калядны вечар, асабліва дзяўчат, зацікаўленых у жаніцьбе, ды іншыя звычаі, што захаваліся на Беларусі.



(Фота Янкі Рамука)

У пятніцу 23 сьнежня радыястанцыя Дабл'ю-Сі-эЛ-аР у Чыкага перадавала калядныя праграмы 35 этнічных групаў, запісаных на істужку ў часе пазалеташняга каляднага фэстывалю ў музэі. Сярод іх была й беларуская праграма, у якой урачыста й плаўна гучэлі беларускія калядкі. Гэтая шасьцігадзінная праграма была паўтораная 25-га сьнежня. Прыемна было слухаць у масавай праграме свае родныя калядкі, што кранаюць глыбака сэрца сваім зьместамі і мілагучнымі мэлёдыямі. Паводля інфармацыі ўкладальніка гэтае праграмы, яна перадавалася ў часе каляднага сэзону шмат якімі амэрыканскімі радыястанцыямі ў розных гарадох краіны.

Як казалі прыватна кіраўнікі музэю, нашая ялінка была вельмі арыгінальная й найпрыгажэйшая з усіх. Падобна выказваліся й шмат якія наведвальнікі. Тэлевізійная станцыя Сі-Бі-эС коратка паказала нашую прыгажуню-ялінку ў сваёй перадачы. Дарэчы, гэта ўжо шосты год запар як нашая ялінка красуецца ў музэі, выконваючы сваю ролю музы каляднага мастацтва.

Трэба выказаць падзяку сп-ні Люні Бяленіс, як спэцыялісты ў саломкавым мастацтве, сп-ні Веры Рамук за наладжаньне каляднай праграмы, Янку Рамуку за інфармацыйны даклад, сп. Ніку Жызьнеўскаму за фільм, дзяўчатам Наталцы Салерна-Пап і Мішэл Кэр ды братом Міхасю й Юрку В-Б за ўдзел у каляднай праграме. Падзяка належыцца таксама за ўбор ялінкі: сп-тву Бяленісам, сп-ням Ірэне Пануцэвіч і Эўдакіі Жызьнеўскай ды сп-тву Зофіі й Аўгену Пілецкім.

**Вітаўт Рамук**

## ЭЎРАПЕЙСКАЯ ГРУПА СУВЯЗІ

Эўрапейская Група Сувязі (ЭГС), з цэнтрам у Лёндане, дзеіць ужо блізу пятнаццаць гадоў. Мэта ЭГС — дакумэнтаваць ды інфармаваць падзеі ў Усходняй Эўропе і СССР. ЭГС мае сталыя сувязі з брытанскімі ўрадавымі ўстановамі, журналістамі й акадэмічнымі коламі, бярэ актыўны ўдзел у выбарах Эўрапейскага Парлямэнту. У склад ЭГС уваходзяць прадстаўнікі ад Альбаніі, Арменіі, Баўгарыі, Беларусі ды іншых эўрапейскіх народаў (усіх 14). Апошнім часам наладжваюцца сувязі з прадстаўнікамі мусульманскіх рэспублікаў СССР, хоць яны й знаходзяцца паза Эўропай.

Эўрапейская Група Сувязі падтрымвае Інтэрнацыянал Супраціву, створаны зь ініцыятывы былога вязьня савецкіх турмаў Уладзімера Букоўскага, які ў ЭГС займае становішча заступніка старшыні.

ЭГС пачала сэрыю брашурных публікацыяў пра нацыянальныя меншыні Савецкага Саюзу. Адна гэткая брашура выйшла летась — „Статыстыка нацыянальнасьцяў Савецкага Саюзу", апрацаваная латыскім прадстаўніком др. Андрысам Абакуксам, а другая выйшла сёлета — „Нацыянальнае пытаньне ў Савецкім Саюзе", апрацаваная украінскім прадстаўніком Канстантынам Зэлэнкам.

Сёлета 21 лютага ў будынку Палаты Прадстаўнікоў у Лёндане перад сябрамі ЭГС выступіў з дакладам на тэму „Праблемы таталітарызму: амэрыканскае гледзішча" член дэлегацыі ЗША у Аб'еднаных Нацыях Карл Гершман. Па дакладзе адбылося прыняцьцё ў Латыскім Народным Доме.

Ад часу стварэньня ЭГС Беларусаў у ёй прадстаўляе сп. Павал Сіповіч, які выконвае абавязкі скарбніка Групы.

## МАЛАЯ КРОПЕЛЬКА

Дзякуючы пачуцьцю гонару за сваю спадчыну (узмоцненаму ў ладнай меры ўдзелам у танцавальным гуртку „Васілёк"), Тацьцяна Шульжыцкая здолела пераканаць сваіх сяброўак із Стуарцкае Сярэдняе Школы ў Прынстане, каб яны прадстаўлялі Беларусь на ўсеамэрыканскай канфэрэнцыі „Мадэль Арганізацы Аб'еднаных Нацыяў", якая адбылася ў Вашынгтоне.

Ініцыятыва Тацьцяны — гэта кропелька ў акіяне. Але трэба даражыць гэтым. Кожнаму ведама, што акіян складаецца з кропляў.

Тацьцяна выказвае падзяку сп-ні Галіне Русак зь Нью Брансьвіку, якая вельмі ахвоча прысьвяціла свой час і наведала Тацьцяніну школу ды зрабіла вельмі цікавы даклад пра Беларусь, ілюстраваўшы яго шмат якімі слайдамі. Гэта быў памысны й прыгожы спосаб азнаёміць вучняў Стуарцкае Сярэдняе Школы зь Беларусяй.

Прынстанская газэта „Таўн Топікс" (за 29 лютага сёлета), падаючы пра ўдзел вучняў мясцовае школы ў канфэрэнцыі ў Вашынгтоне, зьмясьціла фатаздымак групы вучаніцаў, якія прадстаўлялі Беларусь.

**Аляксандра Шульжыцкая**

---

## „ЗВАЖАЙ" № 1(33), 1984

У нумары:

Артыкул „Банальнасьць зла"; арт. др. В. Сянькевіча „У 190-я ўгодкі антымаскоўскага паўстаньня ў Беларусі" (Т. Касьцюшкі); рэцэньзія на кнігу Эндру Кокбэрна „Пагроза"; вэтэранская хроніка; фінансавая справаздача часапісу; ілюстрацыі.

## СЬВ. ПАМ. МІКОЛА АРТОН (АРЦЮХ)

**(25.VII.1924 — 26.II.1984)**

26 лютага 1984 г. адыйшоў у вечнасьць (у гор. Дэтройце, ЗША) калега ў навуцы й прыяцель, зь якім мне пашчасьціла быць разам ад 1950 да 1955 году ў Лювэне ў Бэльгіі. Атрымаў я вестку аб ягонай сьмерці ў аўторак, даведаўся, што паховіны будуць на могілках Жыровіцкае Маці Божае ў Іст Брансьвіку, Н. Дж., 2 сакавіка. Вестка была цяжкая, але-ж звароту тут няма й трэба было паверыць, што гэта так.

У пятніцу 2-га сакавіка паехаў я й колькі чалавек зь Нью Ёрку ў Саўт Рывэр у пахавальнае бюро Малішэўскага, куды было прывезенае з Дэтройту цела Нябожчыка. Там, апрача сям'і — жонкі Веры, дачкі Каці, сына Андрэя ды брата Міхася з Гамбургу, Зах. Нямеччына — ды іхнага прыяцеля др. Язэпа Сажыча, сабралася ладная грамада людзей зь Нью Брансьвіку й ваколіцаў. Паніхіду адслужыў Уладыка Мікалай (Мацукевіч) і а. Аляксандар Яноўскі. Пяяньнем кіравала жонка Нябожчыка — Вера.

Уладыка Мікалай сказаў слова аб чалавечым адыходзе ў вечнасьць. Адбылося развітаньне зь Нябожчыкам. Труну, пакрытую бел-чырвона-белым сьцягам, выносілі сябры й знаёмыя, прыгэтым жонка Вера прыгожа прапяяла „Вечную памяць". Пахавальны картэж рушыў на могілкі (літургія й адпяваньне ды памінальны абед адбыліся ў Дэтройце ў сераду 29 лютага).

На могілках картэж спаткаў маёр С. Гутырчык з вэтэранамі й сьцягамі (Мікола Арцюх быў вэтэранам у раньзе капітана). Тут была адслужаная апошняя ліція. Прамову над магілаю выпала гаварыць мне. Вось што я сказаў:

„Дарагі Мікола, у гэтую смутную для нас хвіліну Твайго перадчаснага адыходу ў вечнасьць, мы схіляем галовы перад Тваімі астанкамі й молім Бога, каб душа Твая знайшла ласку ў небе й вечны супакой.

„Твой чалавечы шлях на гэтай зямлі Ты прайшоў з гордасьцю. Ты нёс сьцяг свабоды беларускаму народу і моцна трымаў яго ў сваіх руках. Твая сьведамая праца для нашага народу бадзёрыла Тваіх сяброў і тых, хто Цябе пазнаў. Твая дапамога й ахвяры ўзмоцнілі нашы інстытуцыі. Твой прыклад чалавека-грамадзяніна прынёс карысьць краіне, дзе Ты жыў і працаваў. А нам, якія яшчэ ў жывых, Ты застанешся гэткім, якім Цябе ведалі: стойкім змагаром, сумленным, працавітым і добрым прыяцелем".

Прапялі „Сьпі пад курганам гэрояў". Генэрал Сажыч і маёр Гутырчык аддалі апошні салют. Беларускі сьцяг з труны быў перададзены сп-ні Артон у знак прызнаньня заслугаў ейнага мужа ў беларускай нацыянальнай працы. Апошняе развітаньне адбылося кіданьнем на дамавіну кветак і жмені зямлі.

На арганізаваным вэтэранамі памінальным абедзе, што адбыўся ў залі царквы Жыровіцкае Маці Божае ў Гайленд Парку, др. Сажыч, які вёў урачыстасьць, папрасіў удзельнікаў падзяліцца ўспамінамі пра Нябожчыка.

Інж. Васіль Русак, выказаўшы спачуваньне сям'і сьв. пам. Міколы Арцюха, гаварыў пра страту вялікага патрыёта. Др. Сажыч, які добра ведаў Міколу, як свайго супрацоўніка па вэтэранскай лініі, расказаў дакладней аб вартасных рысах Нябожчыка. Гэта быў, сказаў ён, спэцыяліст свае справы, чалавек высокае інтэлігентнасьці, бясспрэчнага патрыятызму й нязвычайна лагоднага характару.

Сп. Гутырчык адзначыў глыбокія патрыятычныя пачуцьці сьв. пам. Міколы Арцюха й ягоную ахвярнасьць. Дзякуючы яму быў закончаны помнік Беларускім Гэроям у Іст Брансьвіку, на будаўніцтва якога Нябожчык ахвяраваў чатыры тысячы даляраў. Гэта, сказаў прамоўца, помнік і яму асабіста, недалёка ад якога знайшлося яму ганаровае месца.

Я падзяліўся ўспамінамі пра сяброўства зь Міколам у студэнцкіх часох у Бэльгіі, расказаў пра ягоны актыўны ўдзел у студэнцкім хоры, якім кіраваў кампазытар Равенскі.

Сп. А. Шукелойць, старшыня галоўнае ўправы БАЗА, выказаў жаль з прычыны перадчаснае страты ў асобе Нябожчыка добрага эканаміста.

Сп. Ф. Бартуль гаварыў аб Міколу з часоў зь першых паваенных гадоў у Лёндане, адзначыў ягоны заўсёдны аптымізм, ягоны ўдзел у 1946 г. у заснаваньні Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі.



Сп. Ул. Русак гаварыў агульна, жаліўся на адыход з нашага асяродзьдзя яшчэ аднаго вартаснага чалавека.

На заканчэньне а. Аляксандар выказаў спачуваньне сям'і, адзначыў нязвычайна мужнае трыманьне жонкі Нябожчыка — Веры, ейнае ўзьнёслае й урачыстае чытаньне псальмаў і выдатнае пяяньне.

Закончыліся памінкі малітваю Уладыкі Мікалая.

Мікола Артон (Арцюх) нарадзіўся ў в. Казловічы, Моўчадзкае гміны, Наваградзкага павету. Скончыў эканамічны факультэт Лювэнскага Унівэрсытэту ў Бэльгіі (1950-1955 г.г.) з тытулам магістра.

У Лювэне ў тых гадох беларуская студэнцкая група налічвала больш за 30 студэнтаў, культурная дзейнасьць якіх была даволі дынамічная. Кампазытар М. Равенскі падрыхтаваў мужчынскі хор у 1950 г., які меў каля 20 асобаў. Арганізаваўся гурток беларускіх народных танцаў, што разам з хорам утварыў Беларускі студэнцкі ансамбль. Ансамбль на колькіх месяцах пробаў пачаў даваць канцэрты, спачатку ў Бэльгіі, а пасьля й па суседніх краінах. Кожнае нядзелі хор сьпяваў на багаслужбах. У гэтай культурнай працы Мікола Арцюх выконваў адну з галоўных роляў, як бас у хоры ды як энтузіяст у арганізацыйных і адміністрацыйных справах.

Мікола Арцюх ставіўся да ўсіх сваіх абавязкаў з пачуцьцём адказнасьці й ніколі не занядбоўваў ані сьпевак ані выездаў з хорам. У жыцьці студэнцкае грамады ён ставіўся да кожнага адкрыта й шчыра, ня прыгадваю выпадку, каб ён з кім-небудзь сварыўся ці выказваў нейкія пагрозы. У яго ўсё неяк выходзіла гладка.

Я асабіста быў ягоным бліжэйшым сябрам. У кожнай грамадзе ёсьць вузейшыя сувязі паміж асобнай групай прыяцеляў. Да гэткае групы мы разам належалі. Нас вязала, паза ансамблем, штодзённая супольнасьць: пагуляць разам у брыджа, пайсьці на піва, пагутарыць аб тым ці іншым, і да гэтага падобнае.

Мікола запамятаўся мне, як выдатны чалавек, прыяцель і беларускі патрыёт. Няхай Яму будзе вечная памяць.

**В.Ш.**

### МІКОЛА АРЦЮХ

**(Слова пра Сябру)**

Наша супольнае падарожжа пачалося ў пачатку чырвеня 1944 г. ў Менску. Мікола Арцюх, дзесьці спад Баранавіч, высокі ростам дзяцюк (ці тады яшчэ юнак), заўсёды йшоў у першай тройцы калёны толькі што арганізаванай школы Каманьдзераў Беларускай Краёвай Абароны. Побач зь ім — Касьцюкевіч і Кулага. Мне давялося, ідучы ў другой тройцы калёны, зважаць, каб катораму зь іх на пятку не наступіць. Бывае-ж такое між рэкрутаў. І першыя словы песьні ў маршавай калёны нараджаліся „на чале", значыцца ў Міколавым і маім голасе.

Гэтак, калі думаю пра нядаўна адыйшоўшага ад нас сябру Міколу Арцюха, дык паўстае ён перада мною неразлучна з вайсковай песьняй на вуснах. Праўда, ня ўсе песьні былі для нас роўна мілыя, ці сьпяваліся з аднолькавай лёгкасьцю і энтузіязмам.

Неяк летась вясною, падчас інаўгурацыйнага вечару для новага старшыні Рады БНР у Таронце, група нашых вэтэранаў зацягнула „Чутны гоман, там войска сьпявае"... У іх гэтая маршавая песьня выходзіла каструбавата і яны клікалі іншых на помач. А мне прыгадалася: гэта-ж за яе, менавіта за гэтую песьню, давялося некалі так папацець, як цябе каралі, ганялі розныя Шцюкі й Кацынскія... Ня ведаю, хто ейныя словы ўлажыў, хто мэлёдыю стварыў, але ў маршы яна сьпявалася цяжка, ня так прыкладам, як „У гушчарах"...

Гады раньняй маладосьці незаменныя ў згадках. Вось чаму іменна й пачынаюцца адтуль згадкі пра сябру. Пасьля, на даўгаваты час нашы дарогі разыйшліся. Мікола Арцюх вучыўся ў Лювэне, а я на канадыйскай фэрме гной кідаў. Ён, скончыўшы тую унівэрсытэцкую навуку, перабраўся ў Лёндан да ведамай падарожнай кампаніі Кука, а я з фэрмы „заавансаваў" на працу да гіганта сельскагаспадарчых машынаў Мэсы Фэргусон. Аднак неўзабаве дарогі нашы зноў зыйшліся, бо Мікола Арцюх пераехаў у Таронта. Гэтта-ж ён неўзабаве ўключыўся ў грамадзкую працу, хоць зь іншай працай яму ня надта вязло. Працаваў у аднаго нашага сябры, які надта дрэнна плаціў. Дык што вы думаеце? Мікола пачаў там прафсаюз арганізаваць, каб палепшаньня ўмоваў працы й платы дабіцца. Ды такія Міколавы апэрацыі былі спыненыя ў зародку, бо яму неўзабаве давялося шукаць іншае працы.

Можа таму, што на амэрыканскім баку трава зелянейшая ды сьвяжэйшая была, а мо таму, што, ажаніўшыся зь Верай Лубнік, прывабілівала якраз лепшая пэрспэктыва працы, Мікола Арцюх перабраўся ад нас з Таронта ў Дэтройт, дзе ўжо на сталае загаспадарыў і працаваў у нейкім банкавым прадпрыёмстве. У мясцовым дэтройцкім грамадзкім і царкоўным беларускім жыцьці Мікола Арцюх вызначыўся вялікай адданасьцю й грашовай ахвярнасьцю. Гэта якраз дзякуючы яму ўдалося, пры помачы зычлівых нам людзей ды інстытуцыяў, так хутка сплаціць новакуплены царкоўны будынак, дзе й сяньня знаходзіцца сьвятыня БАПЦ, царква Сьвятога Духа.

Патрыятызм, адданасьць нацыянальнай і царкоўнай справе, ахвярнасьць Міколы Арцюха шырака ведамыя. Але мне найбольш памятаецца ён як вечны аптыміст, заўсёды спакойны, разважны, жартаўлівы, аж да наўмыснага ўжываньня запазычанага ад чужынцаў слова „монджэ...". І яшчэ згадваю, як жартаваць умеў. Прыходзіць ён да цябе ў хату — ведама, раней запрошаны.

— Кастусь, я ў цябе госьць? — пытаецца.

— Ага.

— Дык калі я ў цябе госьць, значыцца я тады магу ў тваёй хаце рабіць, што хачу?

— Пэўне-ж.

І пасьля такога ўступу Мікола запраўды пачынае рабіць, што ён хоча — да пэўнай меры, вядома.

Мікола Арцюх пражыў не напуста, ён даў значны ўклад у нашае нацыянальнае жыцьцё ў розных галінах. За гэта яму чэсьць і слава.

Да сустрэчы ў лепшым сьвеце, Дарагі Сябра!

**К. Акула**

### ПАДЗЯКА

Гэтаю дарогаю хачу выказаць шчырую падзяку нашаму духавенству, усім сябром і прыяцелям, што ўдзельнічалі ў пахаваньні майго мужа, сьв. пам. Міколы Артона. Усім тым, што ушанавалі сваёю прысутнасьцю, прыслалі кветкі або ахвяры на добрыя беларускія мэты ў Ягоную памяць і тым, што выказвалі цёплыя спачуваньні. Усё гэта шмат аблягчыла наш глыбокі жаль і смутак. Асабліва мы былі ўзрушаныя духова такім сардэчным спатканьнем і ўдзелам беларускіх вэтэранаў і вэтэранак, уключна з наладжаньнем памінкавага абеду, прысутнасьцю паважных прадстаўнікоў зь Нью Ёрку, у тым ліку й Старшыні БАЗА, на паховінах у Нью-Джэрзы. Цяпер мы лепш разумеем жаданьне Нябожчыка мужа й бацькі быць пахаваным на беларускім магільніку, сярод сваіх сяброў і суродзічаў. Мы моцна ўдзячныя каманьдзеру др. Сажычу за стараньні й помач у наладжаньні паховінаў.

Вялікае гэта дасягненьне беларускага грамадзтва і вялікае значаньне мае такая прыгожая маёмасьць, як Беларускі магільнік у Іст Брансьвіку.

**Вера Артон**

## СЬВ. ПАМ. МІКОЛА ГУМЕН



Мікола Гумен нарадзіўся 10 сьнежня 1906 г. ў вёсцы Лінова на Палесьсі. Адыйшоў на вечны супачынак 28 студзеня 1984 году. Па заняцьці Заходняе Беларусі Саветамі ў 1939 г. М. Гумен хутка быў арыштаваны й вывезены на Сібір. Калі пачалася вайна зь Нямеччынай ў 1941 г., Нябожчык заліччыўся ў польскае войска, якое арганізавалася ў Казахстане. Пазьней гэтае войска было перавезенае ў Іран, Палестыну, Эгіпет ды нарэшце ў Італію, дзе ўзяло ўдзел у баёх супраць Немцаў пад вялікабрытанскаю камандаю. Нябожчык быў ротным у артылерыі й быў узнагароджаны крыжамі й мэдалямі за гэраічнае змаганьне пад Монтэ Касына.

Па вайне ў 1946 г. пераехаў у Ангельшчыну, дзе пражыў каля 11 гадоў. На працягу гэтага часу Нябожчык выявіў сябе вельмі актыўным і ахвярным беларускім патрыётам. Належаў да Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Брадфардзе й цэлы час падтрымоўваў яе. Таксама належаў да Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі ды браў актыўны ўдзел у іншых грамадзкіх мерапрыёмствах, ладжаных у Англіі.

У 1957 г. пераехаў у Клівленд, Агаё, ЗША, дзе пражыў да канца свайго жыцьця. Вялікую актыўнасьць Нябожчык праявіў у парафіі Жыровіцкае Маці Божае падчас яе будовы, быў доўгі час у парафіяльнай радзе старшынём, скарбнікам, сакратаром, сьпяваў у царкоўным хоры. Браў таксама актыўны ўдзел у арганізацыях. Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньні, Задзіночаньні Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў і наагул удзельнічаў і падтрымоўваў ува ўсіх імпрэзах, ладжаных беларускаю калёніяй у Клівлендзе.

На паховіны сабралася шмат людзей. Беларускія вэтэраны ўшанавалі яго, як заслужанага вайскоўца й змагара, накрыўшы труну беларускім сьцягам і адсьпяваўшы супольна жалобны марш „Сьпі пад курганам гэрояў".

Адыход сьв. пам. Міколы Гумена — гэта вялікая страта для жонкі зь дзецьмі, парафіі, беларускіх арганізацыяў і беларускае калёніі ў Клівлендзе. Няхай лёгкай будзе Яму амэрыканская зямля й няхай сьніцца Яму родныя нівы Палесься.

**Супрацоўнік**

## СЬВ. ПАМ. ЯЗЭП ПІТУШКА

У аўторак 28-га лютага сёлета таронцкія Беларусы разьвіталіся з выдатным беларускім патрыётам на могільніку Парк Лоўн. Язэп Пітушка, які памёр 25-га лютага ў веку 72 гады, па даўгой хваробе, належаў да пінераў беларускага арганізацыйнага жыцьця ў Канадзе.

Першая мая сустрэча зь Язэпам адбылася на фэрме Андрэя Паніцкага, Славака, у Ашаве, у верасьні 1947 году. Ён працаваў тады недзе на фэрме каля Атавы, прыехаўшы туды яшчэ ўвосень 1946 г. з Брытанскай Восьмай Арміі (польскага корпусу) у Італіі. Пітушка паходзіў з Браслаўшчыны, перацярпеў зьняволеньне ў глыбіні Савецкага Саюзу і пасьля трапіў у арганізаваную там Андэрсам польскую армію. Бальшыню вайны правёў на фронтах у Паўночнай Афрыцы й Італіі.

Гэтак, на гэнай першай сустрэчы выявілася, што Пітушка належаў да тых сьведамых Беларусаў-каталікоў, якім наш адраджэнскі, а пасьля й вызвольны рух так шмат заўдзячвае. Пітушка займаўся пашыраньнем беларускай літаратуры ў роднай вёсцы й ваколіцах, належаў да беларускіх гурткоў. А ўжо ў Канадзе яго вельмі цікавілі магчымасьці нейкага гуртка беларускай групы. Разважаючы пра нашыя абставіны й новую, нам амаль няведамую краіну, пастанавілі мы тады навязваць кантакты зь Беларусамі, каб стварыць нейкую арганізацыю. У лютым 1948 г. зьявіўся, адбіты ратапарам, першы нумар „Беларускага Эмігранта", а 30-га лістапада таго-ж году паўстала ў Таронце Згуртаваньне Беларусаў Канады. Адным з закладчыкаў яго й быў Язэп Пітушка.

Першыя часы арганізацыйнага жыцьця былі надзвычайна цяжкія, і вытрымалі дый расьлі мы толькі дзякуючы вялікай працавітасьці й ахвярнасьці нашых пінераў, у іх ліку й Язэпа Пітушкі. Да таго-ж трэба было наладжваць нялёгкае прыватнае жыцьцё, бо, як прыказка кажа, ня было „ні кала, ні двара". Да гэтага можна дадаць — ня было й жонкі. І вось пачаліся закладацца й сем'і. Адным зь першых Пітушка ажаніўся з Элеанорай Сташкевіч, Беларускай зь Дзьвіншчыны, якая сталася надзвычайна добрай памочніцай у мясцовай грамадзкай працы дый у далейшым жыцьці.

Прыгадваю, што ў тыя першыя гады арганізаванага жыцьця ў Таронце (ды яно, арганізаванае жыцьцё, пушчала ўжо атожалкі і ў іншыя гарады, як Манрэаль, Садбуры, Гамільтон) мы жылі згодна, працавалі дружна, безь вялікай палітыкі ці лепш кажучы, не палітыкі, а лягернага, або, як мы назвалі, „дыпісаўскага палітыканства". Мы баяліся яго ды часта раіліся адзін у аднаго, як не дапусьціць, каб гэтае гнільлё не перабралася й да нас.

Ды Канады не адгародзіш. Найпершае „гнільлё" ў выглядзе чалавека, які запісаўся ў украінскія сыботнікі, каб перабрацца ў Канаду, неўзабаве зьявілася сюды разам з усімі сваймі „ускалосьсямі". І гэта „гнільлё" пачало рыць... Арганізацыйнае й рэлігійнае жыцьцё падзялілася. Паўстала Беларускае Нацыянальнае Аб'еднаньне, на чале якога даўгімі гадамі стаяў Язэп Пітушка.

Яшчэ ў далейшым, праз Каардынацыйны Камітэт, паўстала мінімальнае супрацоўніцтва. Трэба прызнаць, што Язэп Пітушка заўсёды меў добрую волю да супрацоўніцтва. Ён адзін зь першых ішоў на помач новапрыбылым, зьбіраў сродкі на дапамогу беларускім студэнтам у Эўропе, ніколі не шкадаваў высілку у грамадзкіх праектах.

Аднак не ўдалося зрабіць, а хіба таму, што такіх як Пітушка ды ягоная жонка Элеанора, сярод нас мала — заладзіць рыма-каталіцкую беларускую парафію. Не бадай што ўдалося-б збудаваць, калі-б быў свой каталіцкі беларускі ахвярны сьвятар. Але. Балела гэта і Нябожчыку, заслужанаму ў грамадзкай працы сьв. пам. Язэпу Пітушку, дый шмат каму іншаму.

Мы будзем прыгадваць Язэпа Пітушку, як вялікага й ахвярнага беларускага патрыёта, добрага хрысьціяніна, добрага бацьку, заслужанага грамадзкага дзеяча. Радні выказваем спачуваньне, а Язэпу — вечная памяць.

**К. Акула**

### ПАМЁР ДР. Ш. ЗЫМЭР

У Лёс Анджэлесе 12 сакавіка сёлета памёр др. Шчэпан Зымэр (нар. 26. XII. 1903), польскі навуковец. Апошнімі гадамі др. Зымэр быў у цеснай лучнасьці зь беларускімі навукоўцамі. Летась выйшла з друку ягоная грунтоўная праца — „Пачаткі кірылічнага друку ў Кракаве ў 1491 годзе. З праваслаўнае мінуўшчыны ў Польшчы". У кнізе гэтай шмат увагі прысьвечана дзейнасьці беларускага першадрукара Францішка Скарыны. Нябожчык цесна супрацоўнічаў з др. В. Тумашам і а. А. Надсонам. У кнізе сьв. пам. др. Зымэра ўпяршыню апублікаваная каляровая фатаграфія партрэту др. Скарыны ў Падуанскім Унівэрсытэце.

Улетку 1983 г. у Нью Ёрку адбылося спатканьне сяброў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва з аўтарам кнігі і ягонай жонкай, якое пакінула па сабе вельмі добры ўспамін.

СЬВ. † ПАМ.

**МІКОЛА АРТОН (АРЦЮХ)**

Парафія Сьв. Духа БАПЦ у Дэтройце, Мічыган, з глыбокім жалем і смуткам паведамляе аб сьмерці ейнага фундатара й шчырага працаўніка сьв. пам. Міколы Артона (Арцюха) 26 лютага 1984 году.

Гэта вялікая й беззаменная страта для нашай парафіі.

З глыбіні сэрца выражаем нашыя найшчырэйшыя спачуваньні асірацелай сям'і: жонцы Веры, сыну Андрэю, дачцы Каці ды братом Алесю й Міхасю.

Па адслужэньні Літургіі ў нашай царкве а. Міхасём Страпком, па адпяваньнях і апошніх разьвітаньнях у Дэтройце, цела Нябожчыка было адпраўленае на пахаваньне на беларускім магільніку ў Іст Брансьвіку ў штаце Нью Джэрзы.

Хай будзе пухам Яму гэтая зямелька на нашым магільніку.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ.

СЬВ. † ПАМ.

**МІКОЛА АРТОН (АРЦЮХ)**

Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў зь вялікім сумам паведамляе аб передчаснай сьмерці (на 60-тым годзе жыцьця) сябры гэтае арганізацыі й ад'ютанта галоўнага камандзера Беларускіх Вэтэранаў на чужыне, капітана Міколы Арцюха. Пахаваньне адбылося на беларускім магільніку ў Іст Брансьвіку каля помніка Беларускім Гэроям, да пабудовы якога Нябожчык спрычыніўся ў вялікай меры шчодраю й шчыраю ахвяраю.

Сьпі пад курганам гэрояў!

СЬВ. † ПАМ.

**МІКОЛА ГУМЕН**

нарадзіўся 10 сьнежня 1906 году ў вёсцы Лінова на Палесьсі, адыйшоў на вечны супачынак 28 студзеня 1984 г. ў Кліўленьдзе, ЗША, пра што з глыбокім сумам паведамляе

**Жонка Марыя зь дзецьмі: Ірэнай, Юркам і Аўгенам**

СЬВ. † ПАМ.

**ЯЗЭП НАЙДЗЮК**

беларускі патрыёт, гісторык, вязень Картуз Бярозы, рэдактар часапісу „Шлях Моладзі", дырэктар Беларускае Друкарні імя Францішка Скарыны ў Вільні, аўтар папулярнае гістарычнае працы „Беларусь учора й сяньня", памёр на 75-м годзе жыцьця 13 лютага 1984 г., аб чым з глыбокім сумам паведамляюць

**Прыяцелі.**

## ПРА БЕЛАРУСЬ...

**(Заканчэньне з б. 4-й)**

Саюзам і Захадам. У артыкуле апісваецца праца Беларускае рэдакцыі РС, кажацца, пра стратэгічна важнае палажэньне Беларусі ды пра вялікія выдаткі савецкае ўлады на глушэньне заходніх перадачаў, каб лепш трымаць савецкае жыхарства пад кантролем. Аўтар артыкулу кажа, што некаторыя супрацоўнікі Беларускае рэдакцыі РС не забыліся яшчэ часоў, калі Беларусь была незалежным дэмакратычным краем, які быў пасьля гвалтам далучаны да Савецкага Саюзу.

**У газэце „Нью Ёрк Таймс"** (16. III) зьмешчаны артыкул маскоўскага карэспандэнта гэтае газэты Джона Бэрнса пра парушэньні законнасьці на Беларусі ў расьсьледаваньні справы падвойнага забойства, калі былі засуджаныя нявінныя пяць асобаў, а пасьля, у выніку выкрытае несправядлівасьці, праведзеная чыстка праваахоўных органаў БССР. (Гл. пра гэта ў папярэднім нумары „Беларуса" арт. А. Насовіча.)

**У часапісе „Алюмнус",** органе Масачусэтскага Ўнівэрсытэту (у нумары за сьнежань 1983-студзень 1984) апісваецца архіў польскага этнографа Ёзэфа Абрэмскага, перададзены ягонай жонкай Масачусэтскаму Ўнівэрсытэту. Абрэмскі сваім часам дасьледваў Палесьсе, захаваў шмат цікавых фатаграфіяў палешукоў і іхнага быту. Артыкул у „Алюмнусе" ілюстраваны сямю добра выкананымі фатаграфіямі з Палесься.

## СУСТРЭЧА Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ!!!

Галоўная ўправа БАЗА нагадвае, што сёлета ў канцытыдні Сьвята Працы (1-3 верасьня) у Кліўленьдзе адбудзецца Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі. Прыяжджайце на яе ўсе ды прывозьце з сабой сваіх сяброў і знаёмых. Спалучэце прыемнае з карысным! Сустрэча будзе мець цікавую, а з нацыянальнага гледзішча важную, праграму.

## ВЫКЛЮЧЭНЬНЕ БССР...

**(Заканчэньне з б. 4-й)**

Называць Украіну й Беларусь суверэннымі дзяржавамі, аргумэнтуе ў сваім лісьце кангрэсмэн Дон Янг, гэта дапушчаць грубую памылку, гэтыя дзьве рэспублікі ў дачыненьні да Савецкага Саюзу — тое самае, кажа Янг, што Флярыда й Каліфорнія ў дачыненьні да Злучаных Штатаў. БССР і УССР — неадлучныя часткі савецкае імпэрыі, не карыстаюцца правам самавызначэньня ў галіне дыпламатыі, іхнае галасаваньне ў ААН было ідэнтычнае з галасаваньнем Савецкага Саюзу на працягу колькіх гадоў.

Кангрэсмэн з Аляскі Дон Янг прапануе выключыць Беларусь і Ўкраіну із складу ААН, каб вярнуць Аб'еднаныя Нацыі да прынцыпу „адна дзяржава — адзін голас". У сваім лісьце да калегаў-кангрэсмэнаў Дон Янг выказвае надзею, што ён знойдзе падтрыманьне свайго праекту рэзалюцыі. Рэзалюцыя заклікае прэзыдэнта Злучаных Штатаў, каб ён шукаў шляхоў пазбавіць Савецкі Саюз двух лішніх галасоў у ААН.

Дон Янг нагадвае ў сваім лісьце, што цяпер у Кангрэсе ёсьць кангрэсмэны, прадстаўнікі абедзьвюх партыяў, Дэмакратычнае й Рэспубліканскае, якія падтрымвалі падобную рэзалюцыю, калі яна была ўпяршыню выстаўленая ў Кангрэсе ў 1971 годзе. Відавочна, рэзалюцыя тая мэты не дасягнула.

Галоўная ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня рыхтуе ліст да кангрэсмэна Дона Янга з выясьненьнем яму памылковасьці аналёгіі Беларусь-Украіна ды Флярыда-Каліфорнія. У лісьце БАЗА будзе сказана, што ЗША павінны дамагацца ня выключэньня Беларусі і Ўкраіны з ААН, а павінны падтрымваць імкненьні да незалежнасьці беларускага і ўкраінскага народаў, каб народы гэтыя здолелі паслаць у ААН сваіх праўдзівых прадстаўнікоў.

## БЕЛАСТОЦКІ КАЛЯНДАР 1984 ГОДУ

Дваццаць восем гадоў ужо выходзіць у Беластоку, у форме кніжкі, „Беларускі Каляндар". Выдае яго галоўнае праўленьне Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства у Польшчы. Сёлетняя кніга календара — ілюстраваная, на 224 старонкі — выйшла тыражом восем тысячаў экзэмпляраў.

Запевам да сёлетняга выданьня стаўся верш беластоцкага паэта Ўладзімера Шклярука пад заг. „Хвалю і кахаю" з гэткімі вось радкамі:

Хвалю заўсёды родны край,
дзе я жыву і нарадзіўся;
і сьпеўку родную... Бадай
хваліць ніколі не забыўся...
Яшчэ хвалю сваіх бацькоў,
ад іх я мовай ганаруся,
дый усіх айчынных песьняроў. —
Яны далі мне імя Беларуса!..

Першы разьдзел кнігі і становіць свайго роду пахвалу роднаму краю: супраць кожнай старонкі з расьпісаньнем сьвятцаў месяца дададзена другая з фатаздымкам нейкай цікава аформленай вясковай хаты, або краявіду, або пэрсанажаў са звароткам ці дзьвюма з патрыятычнага вершу. Прыкладам:

Белавежа — зялёны гармонік,
цябе край мой на грудзі ускінуў,
палажыў на клавішы далоні,
да грудзей прытуліў, як дзяўчыну.
І баяніць зьвінячаю мовай,
дый санатай плыве па-над сьветам,
а пад кожнай сукенкай вярбовай
у гіпнозе застылі паэты.

Гэта зь вершу аднаго з найбольш ведамых беларускіх паэтаў Польшчы Алеся Барскага.

Наступным у календары ідзе разьдзел пад заг. „40 год Польскай Народнай Рэспублікі": апісаньне ваенных падзеяў на Беласточчыне, гісторыя ўстанаўленьня ўлады й правядзеньня рэформаў, апісаньне змаганьня, якое вялося на Беласточчыне па заканчэньні ўжо вайны, улетку 45-га году, калі, як піша ў календары, „зьмяшаліся былі элемэнты тэрору, бандытызму й малой дамашняй вайны". У разьдзеле апісваюцца дасягненьні, якіх жыхарства Беласточчыны дамаглося за мінулыя 40 год. У гэтым разьдзеле зьмешчаны й кароткі артыкул пра савецкую Беларусь дацэнта БДУ Леаніда Лойкі.

Трэйцім у календары ідзе разьдзел „На хвалях жыцьця. Летапіс Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства 1982-83 гадоў". Гэта ў васноўным хроніка беларускага культурнага й грамадзка-арганізацыйнага жыцьця: якія адбыліся сустрэчы, літаратурныя вечары, нарады, канцэрты, народныя фэсты й гэтак далей. Хроніка пакідае ўражаньне даволі актыўнае арганізацыйнае працы й мастацкае самадзейнасьці гуртко́ў БГКТ.

Тут-жа зьмешчаны артыкул пра дзейнасьць Грамадзка-Культурнага Таварыства Яўрэяў у Польшчы і артыкул пра „Настаўнікаў роднай мовы". На прыкладзе колькіх пачаткавых школаў апісваецца, як настаўнікі беларускае мовы прышчапляюць сваім вучням замілаванасьць да роднага слова.

У чацьвертым разьдзеле — пад заг. „З нашага мінулага" — першым ідзе артыкул пра „Статут (Вялікага Княства Літоўскага) 1529 году", напісаны, як ведама, тагачаснай беларускай мовай. Далей — артыкулы пра Кастуся Каліноўскага (пад заг. „Каліноўскі — пачаткі ідэі сучаснай Беларусі"), пра Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (да угодкаў нараджэньня й сьмерці), пра падпольны часапіс беларускіх народнікаў „Гоман", ад выхаду якога сёлета спаўняецца сто гадоў; пра творчасьць Леапольда Родзевіча, аўтара папулярнага вадэвілю „Зьбянтэжаны Саўка".

Цікавы наступны невялікі разьдзельчык — „Аб нас пісалі" — выказваньні дзеячоў польскае культуры ў даваенных і паваенных польскіх выданьнях пра Беласточчыну ды ейнае беларускае жыхарства, нацыянальную сьведамасьць Беларусаў, беларуска-польскія сувязі. Выпіскі зьмешчаныя ў арыгінале — папольску.

Шосты разьдзел кнігі, загалоўлены „Народная культура", — аб вырабах з дрэва, аб месцы, якое ў жыцьці чалавека займае лес; аб драўляным дойлідстве, аб народным будаўніцтве й зьменах у вонкавым выглядзе будынкаў. Аўтар артыкулу Мікола Лобач, апісваючы сялянскую хату жыхара Беласточчыны, закранае таксама пытаньне нацыянальнае самасьведамасьці. Сьведамасьць гэтая вызначалася паводле веравызнаньня. Аўтар прыгэтым адзначае русыфікатарскую тэндэнцыю праваслаўнага духавенства, палянізацыйную тэндэнцыю каталіцкага ды кажа, што ў мінуўшчыне „жорсткая барацьба праваслаўя з уніяцтвам (якое арыентавалася на беларускую мову) была прычынай масавага зьнішчэньня многіх помнікаў народнай культуры, асабліва культавай разьбы ў дрэве і культавага малярства. Усё гэта — піша Лобач, — абедніла нашу культуру, але не змагло зьнішчыць народнай душы. У гэтым выпадку кансэрватыўныя адносіны простага народу да новаўвядзеньняў адыгралі станоўчую ролю ў захаваньні радзімых элемэнтаў народнай культуры".

Сёмы разьдзел у календары прысьвечаны агляду творчасьці літаратурнага згуртаваньня „Белавежа" за 1981-82 гады. „Белавежаўцы" штомесяцу зьмяшчаюць у тыднёвай газэце „Ніва" літаратурную старонку, выдаюць свае зборнікі. У 1981-82 гадох, даведваемся, на старонках „Белавежы" апублікаваліся 24 аўтары, у іх ліку — тры дэбютанткі. Найбольш плённымі былі Алесь Барскі, Сакрат Яновіч і Надзея Артымовіч. Галоўны жанр творчасьці „Белавежы", кажа аўтар агляду Яна Жамойцін, — гэта паэзія, аднак даволі розная ў стылі, форме й мастацкай традыцыі. Аўтар артыкулу пра „Белавежу" знаёміць чытача з найбольш тыповымі прадстаўнікамі гэтай літаратурнай арганізацыі. У разьдзеле зьмешчаная таксама творы некаторых „белавежаўцаў", проза й паэзія.

Нарэшце ў восьмым, апошнім разьдзеле календара, пад заг. „Прачытаеце — скарыстаеце", даюцца практычныя парады: упарадкаваньне сядзібы, рамонт будынкаў, мэблі. Тут-жа зьмешчаная юрыдычная кансультацыя: пра сацыяльнае забясьпечаньне, пэнсіі, страхоўку, парадак перадачы сельскіх гаспадарак.

Дваццаць восьмая кніга выдаванага Беларускім Грамадзка-Культурным Таварыствам у Беластоку „Беларускага Календара" выдатна дапоўніла сэрыю гэтых выданьняў, што становяць, разам з гадавікамі газэты „Ніва", багаты летапіс жыцьця Беларусаў у Польскай Народнай Рэспубліцы.

**В.З.**

## ДАПАМОГА БЕЛАРУСАМ У ПОЛЬШЧЫ

У 1984 г. на дапамогу суродзічам у Польшчы прыслалі ахвяры наступныя асобы:

| | |
|---|---|
| Др. Ул. Набагез | 100.00 |
| Ант. Адамовіч | 100.00 |
| Р. Станкевіч | 100.00 |
| З. Станкевіч | 80.00 |
| Др. Л. Трусэвіч | 50.00 |
| Н. О. | 30.00 |
| Ю. Андрусышына | 30.00 |
| Я. Запруднік | 25.00 |
| а. А. Яноўскі | 20.00 |
| Я. Гуткоўскі | 20.00 |
| К. Верабей | 20.00 |
| Г. Сянькевіч | 20.00 |
| Б. Прытыцкі | 20.00 |
| Б. Дубоўскі | 20.00 |
| М. Тулейка | 10.00 |
| Архім. Я. Строк | 5.00 |

Наступныя асобы ахвяравалі вопратку: Др. Г. Тэдок, М. Верабей, Р. Станкевіч, Г. Паланевіч і Т. Міцкевіч.

В. Станкевіч ахвяраваў харчы.

Да красавіка сёлета выслана суродзічам у Польшчу 25 пачкаў.

Усім ахвярадаўцам шчыры дзякуй!

У сувязі з тым, што ў нас назьбіралася вельмі шмат вопраткі, а грошай на высылку нестае, просім тымчасам вопраткі не прысылаць. Грашовыя ахвяры, калі ласка, шліце й надалей на адрыс:

Mrs. A.O. Romano
172 Mill Spring Rd.
Manhasset, N.Y. 11030

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

У лютым 1984 г. падпіска й ахвяры:

**ЗША**

Прыслана беспасярэдна ў Рэдакцыю:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | П. Алекса | $ 50.00 |
| 2. | Ю. Каляда | 50.00 |
| 3. | Гурток „Васілёк" (Н.Ё. — Н. Дж. | 50.00 |
| 4. | Б. Дубоўскі | 30.00 |
| 5. | Ч. і Ю. Найдзюк | 25.00 |
| 6. | М. Прускі | 25.00 |
| 7. | М. Сьнежка | 25.00 |
| 8. | Архім. Я. Строк | 25.00 |
| 9. | М. Вазьняк-Гаўрылюк (заміж кветак на магілу с.п. М. Артона | 25.00 |
| 10. | Бел. Каард. К-т у Чыкага (праз др. В. Рамука) | 20.00 |
| 11. | О. Арэхва | 20.00 |
| 12. | М. Калядка | 20.00 |
| 13. | Н. Орса | 20.00 |
| 14. | Ю. Рапэцкі | 12.00 |
| 15. | Я. Крэсла | 12.00 |
| 16. | Б. Косараў | 10.00 |
| | **Разам:** | **$ 424.00** |

Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | І. Цупрык | $ 35.00 |
| 2. | М. Каранеўскі | 30.00 |
| 3. | А. Дубяга | 30.00 |
| 4. | М. Тулейка | 30.00 |
| 5. | Аддз. БАЗА ў Н.Дж. | 25.00 |
| 6. | С. Гутырчык | 25.00 |
| 7. | Я. Сокал | 22.00 |
| 8. | С. Дубоўскі | 20.00 |
| 9. | В. Балтрушэвіч | 20.00 |
| 10. | К. Мірановіч | 20.00 |
| 11. | А. Субота | 20.00 |
| 12. | Д. Дзядовіч | 20.00 |
| 13. | М. Сенька | 15.00 |
| 14. | В. Стома | 15.00 |
| 15. | Т. Супрун | 15.00 |
| 16. | а. Аляксандар | 15.00 |
| 17. | В. Мельяновіч | 12.00 |
| 18. | В. Кабушка | 12.00 |
| 19. | А. Балкоўскі | 12.00 |
| 20. | Я. М. | 12.00 |
| 22. | М. Януш | 12.00 |
| 23. | М. Мядзейка | 12.00 |
| 24. | Ю. Азарка | 12.00 |
| 25. | А. Сільвановіч | 12.00 |
| | **Разам:** | **$ 475.00** |

**КАНАДА**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Б. і Л. Рагуля (заміж кветак на магілу с.п. М. Артона-Арцюха) | $ 150.00 |
| 2. | ЗБК (заміж кветак на магілу с.п. М. Артона-(Арцюха) | 40.00 |
| 3. | К. Акула | 20.00 |
| 4. | Б. Кірка | 16.00 |
| 5. | У. Целяш | 12.00 |
| 6. | А. Ціхановіч | 10.00 |
| | **Разам:** | **$ 248.00** |

**АНГЕЛЬШЧЫНА**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | В. Карніловіч | анг. ф. 40.00 |
| 2. | М. Баяроўскі | 35.00 |
| 3. | П. Мятла | 10.00 |
| 4. | Я. Міхальчык | 10.00 |
| | **Разам у ам. дал.** | **$ 132.52** |

**АЎСТРАЛІЯ**

Ад сп. П. Трысмакова з Адэляйды:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | З продажу газэты | $ 27.45 |
| 2. | М. Цітовіч | 18.30 |
| | **Разам:** | **$ 45.75** |

Усім прадстаўнікам, ахвярадаўцам і падпісчыкам шчыры дзякуй!

**Рэдакцыя „Беларуса"**

## ПРАЗ СП. Б. ДАНІЛОВІЧА

Рэдакцыя просіць усіх, хто дастае „Беларуса" праз нашага прадстаўніка ў Нью Джэрзы сп. Браніслава Даніловіча, зь ім-жа й разьлічвацца за газэту ды зьмяшчаныя ў ёй платныя клішы й абвесткі.

## ГАДАВІКІ „БЕЛАРУСА"

Выдавецтва „Беларуса" мае гадавікі газэты на продаж. Цана гадавіка, улучна зь перасылкай — 15 даляраў. Калі хто хоча іх набыць, цяпер час прыслаць замоўленьне. Пасьля можа быць запозна.